ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год. XXVI, № 232 New York, August — Жнівень 1976 Vol. XXVI, № 232

## ПАМЁР ІВАН МЕЛЕЖ



Газэта „Літаратура і Мастацтва" за 13 жнівеня сёлета, як і ўсе іншыя газэты БССР, прынесла сумную вестку, што пасьля даўгой і цяжкай хваробы 9 жнівеня сёлета памёр у Менску на 56-ым годзе жыцьця шырака ведамы й высока таленавіты беларускі пісьменьнік Іван Мележ. Ягоная перадчасная сьмерць — гэта для беларускай літаратуры й беларускага народу гэткая балючая страта, што ейны цяжар цяжка навет уявіць і асэнсаваць.

Высокі пісьменьніцкі аўтарытэт і агульнае прызнаньне здабыў Іван Мележ не адразу. І ня першым сваім вялікім раманам 1952 году „Мінскі напрамак" на тэму мінулае вайны на Беларусі. Гэты аўтарытэт, прызнаньне й пісьменьніцкую славу прыдбалі яму раманы з цыклю „Палескай хронікі" — „Людзі на балоце, упяршыню апублікаваны ў часапісе „Полымя" ў 1961 годзе, і наступны раман з гэтага цыклю „Подых навальніцы", што ўпяршыню быў надрукаваны ў тым-жа „Полымі" ў 1964-65 гадох. Абодвы гэтыя раманы, а так-жа ваенныя аповесьці Васіля Быкава ды раман 1962 году Ўладзімера Караткевіча „Нельга забыць" і ягоны гістарычны раман 1965 году ў двух тамох „Каласы пад сярпом тваім" пра насьпяваньне паўстаньня 1863 году пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, годна распачалі й у васноўным завяршылі новы пэрыяд у беларускай літаратуры, зроджаны адсьвежанай палітычнай атмасфэрай у выніку дэсталінізацыі — асуджэньня Сталіна й сталіншчыны.

Ад 1966 году пачынаецца ўжо паступовае зьніжэньне гэтага літаратурнага ўздыму ў выніку завайстрэньня палітычнага курсу. Не дарма-ж сам Іван Мележ у сваім інтэрвю ў часапісе „Маладосьць" у 1966 годзе, дадзеным Аляксею Гардзіцкаму, сказаў „**Людзі на балоце" ў такім выглядзе, у якім яны напісаны, маглі зьявіцца толькі пасьля тых перамен́аў, што адбыліся пасьля XX зьезду партыі**".

Пачынаючы ад гэнага 1966 году, бесьперапынна ўзмацняецца партыйнае ўмешваньне ў справы літаратуры й настырлівыя спробы змусіць Івана Мележа, як і іншых згаданых і не згаданых тут пісьменьнікаў і паэтаў паставіць іхную творчасьць на службу для надзённых патрэбаў партыі, напатыкаючы, аднак, на моцны супраціў апошніх. Пра гэтую вельмі цікавую зьяву, што зазначылася асабліва моцна якраз у дачыненьні да Івана Мележа, будзе ход у нашым наступным артыкуле ў верасенскім нумары „Беларуса". Сяньня-ж засярэдзімся адно на першых водгуках на сьмерць Івана Мележа ў згаданым нумары „Літаратуры і Мастацтва", на тым, як зарэагавала на гэтую сумную падзею беларуская пісьменьніцкая грамадзкасьць.

Іван Мележ гэтак шмат зрабіў для беларускае літаратуры й беларускага народу, што навет партыя, хоць нахабна прысабечвала ягоныя дасягненьні, усё-ж не магла прамоўчыць і ягоных вялікіх заслугаў для Беларусі. У зьмешчаным у згаданым нумары „Літаратуры і Мастацтва" афіцыйным артыкуле на сьмерць Івана Мележа Беларускага Тэлеграфічнага Агенцтва — БЕЛТА, хоць вельмі суха й беснячуцьцёва, сьцьвярджаецца наступнае: „**Шматнацыянальная савецкая літаратура панесла вялікую страту. Памёр пісьменьнік, кнігамі якога ганарыцца наш народ, творы якога сталі побач з клясычнай спадчынай Купалы й Коласа. Трывала ўвайшла ў духоўны вопыт нашага сучасьніка „Палеская хроніка" Івана Мележа — выдатная эпапэя народнага жыцьця, твор, які набыў шырокую вядомасьць у нашай краіне й за яе межамі**".

Затое словамі глыбокага болю й шчырае пашаны ды высокага прызнаньня для Нябожчыка прагучэлі выступленьні беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў. Гэтак беларускі народны паэта Пімен Панчанка піша: „**Мы страцілі вялікага пісьменьніка беларускай зямлі, аднаго з самых таленавітых празаікаў Савецкага Саюзу. Палескія раманы Івана Мележа — адна з высокіх і сонечных вяршынь беларускай савецкай культуры**".

Малады беларускі пісьменьнік Гэнрык Далідовіч, што нарадзіўся ўжо па вайне — у 1946 годзе — гэтак ацэньвае творчасьць Івана Мележа: „**Толькі што надрукаванымі тады раманамі „Людзі на балоце" й „Подых навальніцы" былі пазначаны ня толькі ягоныя творчыя вышыні, але й дасягненьні ўсёй сучаснай беларускай і ўсесаюзнай прозы. Мележаўская „Палеская хроніка" і тады была, і цяпер ёсьць узор адлюстраваньня, мастацкага асэнсаваньня, жыцьцёвага матарыялу, увасабленьня яго ў падзеі й характары, узорам мастацкасьці, ювэлірнага карыстаньня словам, спалучэньня філязофскіх і эстэтычных, нацыянальных і інтэрнацыянальных паглядаў аўтара. Гэта — творы, да якіх доўга й настойліва йшла беларуская проза, якія замацавалі яе сталасьць і высокі ўзровень**".

Асаблівую маюць вымову наступныя словы з артыкулу старэйшага пісьменьніка Мікола Лобана: „**У васобе Мележа беларуская літаратура страціла майстра слова вялікай мастацкай сілы, майстра тонкага й непаўторнага жывапісу, майстра арыгінальнага голасу, знайдзенага ў тайніках духоўнага генія беларускага народу, майстра, які пасьцігаў лепшыя традыцыі сусьветнай літаратуры й сьмела йшоў на іх парушэньне, калі гэтага вымагаў ідэйны зьмест твору**".

Хіба не памылімся, калі выкажам думку, што пісьменьнік ішоў на парушэньне лепшых традыцыяў сусьветнай літаратуры не таму, што гэтага быццам вымагаў ідэйны зьмест твору, а таму, што гэтага патрабавала партыйная дырэктыва й строгая савецкая цэнзура.

Глыбокім болем прагучэлі радкі натхненных вершаў беларускіх паэтаў, напісаных пад сьвежым уражаньнем сьмерці пісьменьніка. Гэтак паэта сярэдняга векам пакаленьня Генадзь Бураўкін закончыў свой верш наступнымі радкамі:

**Зямліцы роднай ён так шмат аддаў**
**Крыві, здароўя, таленту і працы,**
**Што забіраць яго ад ніў і траў**
**Яна, матуля, не магла сьпяшацца . . .**
**Ня веру я бязьлітаснай жарсьцьве,**
**Што холадам магільным рукі коле.**
**Ён ёсьць.**
**Ён ёсьць!**
**Ён з намі.**
**Ён жыве . . .**
**Ён няжывым ня можа быць ніколі!**

А вось канцавыя радкі зь вершу старэйшага беларускага паэты Сяргея Грахоўскага:

**Якое гора! О якое гора!**
**Смуга заслала нечакана сьвет —**
**На паўдарозе ўпаў падбіты жораў,**
**А на зямлі яго ня згасьне сьлед.**

Бязьлітасная сьмерць вырзала зь беларускіх пісьменьніцкіх радоў аднаго з найбольш нацыянальных пісьменьнікаў і гарачых патрыётаў Беларусі. Сярод беларускіх празаікаў адзін-адзіны Ўладзімер Караткевіч у гэтым сэньсе вышэй стаіць за Івана Мележа. Глыбака нацыянальны характар выявіў Іван Мележ у раманах „Палескае хронікі", а гарачым пачуцьцём нацыянальнага патрыятызму прагучэлі шмат якія ягоныя афіцыйныя выступленьні. Зыркім гэтага прыкладам могуць служыць наступныя словы зь ягонае прамовы на сьвяткавальным вечары з нагоды ягонага 50-годзьдзя ў 1971 годзе ў Менску: „**Вялікае дзякуй роднай беларускай зямлі, якая ўзгадавала нас, навучыла любіць яе фарбы й водар. Вялікае дзякуй і нізкі паклон роднаму беларускаму народу — за яго працавітасьць, гераізм, увагу, ласку й спагаду. Любоўю да роднай зямлі і да роднага народу народжаны мае кнігі. Гэтай любові я служыў і буду служыць да канца**".

Гэтае прызнаньне ў сваёй бязьмежнай любасьці да роднай зямлі й роднага народу дасло̂ўна паўтарыў Іван Мележ і ў 1972 годзе ў сваіх інтэрвю ў „Литературной газете" й „Настаўніцкай газэце" з нагоды прысуджэньня яму Ленінскае прэміі за раманы „Людзі на балоце" й „Подых навальніцы".

Іншы беларускі сучасны пісьменьнік Іван Шамякін, што прэтэндуе да першага месца ў галіне сучаснае беларускае прозы й настырліва дэманструе ў сваіх аповесьцях і раманах сваю вернасьць партыйнай дырэктыве, на сьвяткавальным вечары з нагоды свайго 50-годзьдзя ў студзені 1970 году ў сваёй прамове дзякаваў таксама. Але дзякаваў ня роднай беларускай зямлі й ня роднаму беларускаму народу, пра якіх навет і не згадаў ніводным словам, а вылучна, як перадавала газэта „Літаратура і Мастацтва", „**Камуністычнай партыі, ейнаму Цэнтральнаму Камітэту, Савецкаму ўраду**".

Савецкі пэрыядычны друк толькі цяпер у сувязі із сьмерцяй пісьменьніка паведаміў, што Іван Мележ ужо ад даўгога часу быў цяжка хворы. Бяручы ўвагу на ягоныя духовыя мукі ў сувязі зь бесьперапыннымі й настырлівымі партыйнымі намаганьнямі паставіць ягоную творчасьць на поўную службу партыі ды ведаючы пра ягоны наважаны супраціў падобным намаганьням, як і цьвёрдую наважанасьць застацца на сваіх ранейшых пазыцыях, ёсьць моцныя асновы прыпушчаць, што аднэй з прычынаў ягонае цяжкае хваробы й перадчаснае сьмерці маглі быць якраз гэныя духовыя мукі.

Іван Мележ памёр у самым росквіце свайго таленту, у не старым яшчэ веку, калі ўсяго свайго галоўнага й запаветнага сказаць яшчэ ня ўправіўся. Найвялікшыя творчыя дасягненьні ўсяго ягонага жыцьця былі яшчэ наперадзе. Але й тое найлепшае, што ён пакінуў нам у спадчыне, застанецца аднэй з найбольш каштоўных бачынаў у гісторыі беларускае літаратуры.

**Ст. Станкевіч**

## МЕСЯЦ З МОЛАДЗЯЙ

У панядзелак 3-га травеня на просьбу кіраўнікоў моладзі ў Нью Джэрзі мне давялося мець дачыненьне да фэстывалю ў гор. Горызоне, Н. Дж., у якім браў удзел і наш танцавальны гурток „Васілёк" (пра гэта я ўжо ведаў з газэтаў). Размах фэстывалю быў надзвычайны: каля пяцёх тысячаў гледачоў прайшло праз школьны будынак, дзе на працягу васьмёх гадзінаў адбываліся мастацкія паказы, у тым ліку й беларускія народныя танцы. Нашая група выступала двойчы й абодвы разы выклікала захапленьне гледачоў, некаторыя танцы даводзілася паўтараць на біс. У дадатак да танцаў была таксама арганізаваная выстаўка беларускага мастацтва. Зь ініцыятывы моладзі была выдрукаваная тыражом 500 экзэмпляраў невялікая брашура пра Беларусь.

Прыемна было назіраць і слухаць, як народжаныя ў Амэрыцы маладыя хлапцы й дзяўчаты ўсьведамлялі сваіх горадзенскіх, менскіх ды магілеўскіх „землякоў", для якіх гэта было першае спатканьне з нацыянальнай Беларусяй.

Трэба падаць тут, што гор. Гарызан, прыгарад вялікага прамысловага цэнтру Ньюўарку, мае сярод сваіх жыхароў шмат этнічных групаў — Італьлянцаў, Ірляндцаў, Палякоў ды інш. Беларускіх арганізацыяў там няма, хоць у кольких праваслаўных прыходах ёсьць цімала Беларусаў, што пасяліліся там ад 1925 году. Дзеля гэтага якраз арганізатары фэстывалю й палічылі патрэбным, каб у ім узялі ўдзел і Беларусы.

На працягу таго самага тыдня „Васілёк" правёў колькі рэпэтыцыяў у сувязі зь вялікім Беларускім Фэстывалем у ньюджэрзійскім Цэнтры Мастацтваў, што быў запляназваны на 12 чырвеня, ды ў сувязі з выступленьнем у сталіцы штату Трэнтане 17 травеня.

У акрузе (каўнты) Трэнтану жывуць сябры беларускае маладзежнае арганізацыі Юрка й Соня Драздоўскія, дзякуючы якім Беларусь была прадстаўленая там на ўсіх сьвяточных урачыстасьцях. Далучыўся да іхнага высілку й „Васілёк".

У Трэнтане гэткага йшчэ ня было: перад будынкам Губэрнатара й штатнага Сэнату пераліваліся гукі й калёры беларускіх народных мэлёдыяў і вопраткі, а праз галосьнікі да тысячнае аўдыторыі йшла інфармацыя пра Беларусь, ейную культуру, гісторыю, нацыянальныя асьпірацыі. У гутарцы са мной карэспандэнт трэнтанскае газэты заўвеціў: „З гэткай моладзяй добра пачынаць трэйцяе стагодзьдзе".

Сьледам за выступленьнем у Трэнтане, у нядзелю 18-га травеня, адбыўся ўдзел у ньюёркаўскім Народным Фэстывалі, у праграме якога мінулымі гадамі ціраз выступалі колькі сучасных кіраўнікоў і ўдзельнікаў танцавальных гурткоў, у тым ліку й кіраўнічка „Васілька", добра ведамая сваім удзелам у мастацкіх выступах др. Ала Орса-Рамана.

8-га чырвеня, паралельна з рыхтаваньнем да вялікага Беларускага Фэстывалю, адбылося выступленьне нашых танцораў у гор. Фрыголдзе ў штаце Нью Джэрзі. Фрыголд — выдатная мясьціна ў гісторыі Амэрыкі. Этнічны фэстываль тут быў навінёй, і тым больш было задаваленьня, што на яго запрасілі й Беларусаў. Ізноў: брашуры пра Беларусь, рэклямныя афішы, вусная інфармацыя і — найгалаўнейшае — прыгожыя й дынамічныя беларускія народныя танцы ў выкананьні маладых энтузіястых.

Па выступе ў Фрыголдзе йшоў ведамы з папярэдніх нумароў „Беларуса" Фэстываль у Голмдэле ў Цэнтры Мастацтваў.

Гэтак вось — на працягу месяца — шэсьць большых выступаў, каля дваццацёх пробаў, разданьне каля 1500 брашураў, гутаркі з журналістымі, наведваньне царквы, скаўцкіх зборак, спартовых сустрэчаў і асноўнае — **навука,** бо-ж гэта ўсё вучнёўская моладзь, наведвальнікі сярэдніх школаў і каледжаў, якія ў сярэднім дастаюць выдатныя й добрыя ацэнкі за навуку, бяруць актыўны ўдзел у школьным жыцьці ды гэтульки робяць для грамадзка-нацыянальнае справы.

**В. Зубкоўскі**

## ПЕРШАЯ АГУЛЬНАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ

Спадзяюся, што чытач адразу здагадаецца, што пішу аб Дні Беларускае Культуры — Беларускім Фэстывалі, які адбыўся 12 чырвеня сёлета ў Ньюджэрзійскім Штатавым Цэнтры Мастацтваў. Бо-ж гэты Фэстываль быў адначасна першай агульнай сустрэчай Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Дзякуючы таму, што Фэстываль ладзіўся супольнымі сіламі людзей, што належаць да розных беларускіх палітычных, царкоўных і грамадзкіх арганізацыяў, дык зьехаліся Беларусы з розных, амаль усіх, дзе яны жывуць, гарадоў, мясьцінаў і куткоў ЗША й Канады ўсе разам, да чаго загадзя да Фэстывалю горача заклікаў сябра Арганізацыйнага Камітэту Дня Беларускае Культуры д-р Янка Запруднік.

І на выстаўцы беларускага мастацтва ў вялізнай палатцы й у вялізарным Цэнтры сярод вялікай грамады прысутных можна было пабачыць герархаў БАПЦ і бальшыню сьвятароў абедзьвюх беларускіх праваслаўных цэркваў, старшыню Рады БНР, старшыню Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, прадстаўнікоў БЦР, БАА й ЗБАДК, вэтэранскіх і маладзежных арганізацыяў ды пэрсанальна выдатнейшых палітычных, грамадзкіх, культурна-асьветных і царкоўных дзеячоў і працаўнікоў, беларускіх паэтаў, пісьменьнікаў і публіцыстых. Сустрэліся старыя й даўнія прыяцелі й знаёмыя, якія даўно ня бачыліся. Шмат людзей сустрэліся адны з другімі ўпяршыню й пазнаёміліся. Словам, гэткай сустрэчы Беларусаў яшчэ дагэтуль ня было ў Амэрыцы.

Пра выстаўку беларускага мастацтва і пра выступленьні беларускіх хораў, салістых (сьпевакоў і музыкаў) і танцавальных групаў на Фэстывалі пісаць ня буду, бо гэта зробіць напэўна шмат лепш нехта больш кампэтэнтны за мяне. Скажу толькі, што якасьць выкананьня мастацкіх нумароў фэстывальнай праграмы хорамі, салістымі й танцавальнымі групамі, бяручы пад увагу, што амаль усе выканаўцы былі аматарамі, была на вельмі высокім узроўні. Маючы добрую волю, энтузіязм і моцна захацеўшы, усё можна дасягнуць і зрабіць. Надзвычай прыгожа прамаўляў у ангельскай і беларускай мовах, вітаючы прысутных у тэатры, д-р Янка Запруднік.

На заканчэньне сваёй кароткай зацемкі не магу ня ўспомніць галоўнага арганізатара Фэстывалю й старшыню Фэстывальнага Камітэту д-ра Вітаўта Кіпеля, які, не шкадуючы сваіх сілаў, уклаў вельмі шмат сваёй энэргіі й працы, не пазбаўленай вялікай нэрвовай напружанасьці ды розных перашкодаў, пасьвяціў увесь свой вольны час на падрыхтоўку й рэалізацыю фэстывалю.

**У. Б.**

 



**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $10.00 yearly.

„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ВЕЛЬМІ ПАТРЭБНАЯ Й КАРЫСНАЯ КНІГА

Вялікая шкода, што сярод публікацыяў беларускае эміграцыі вельмі мала дакумэнтальна-мэмуарных, папулярна-навуковых ці навет і чыста літаратурна-мастацкіх пра вельмі важную пару гісторыі Беларусі — пра гады мінулае вайны. Асабліва першаякасны гістарычны матарыял у гэтай галіне маглі-б даць напісаныя й апублікаваныя ўспаміны. Толькі навочныя сьведкі й самі актыўныя ўдзельнікі тагачасных падзеяў, у абставінах поўнае ў дэмакратычным сьвеце свабоды слова, могуць сказаць усю і ўсебаковую праўду пра гэтыя жудасныя часы гісторыі беларускага народу.

Патрэба рабіць мэмуарныя запісы асабліва важная таму, што магчымасьць іх напісаньня конам чалавеку абмежаная: усё, чаго ўдзельнікі й сьведкі гэтых падзеяў не запішуць, яны панясуць разам з сабой у магілу, пазбаўляючы гісторыю вельмі важных фактаў пра перажытае беларускім народам у гады апошняга сусьветнага ваеннага катаклізму.

У галіне беларускае ваеннае мэмуарыстыкі першае кніжнае выданьне зьявілася ў 1957 годзе ў Лёндане. Гэта пераклад паангельску А. Рычардсона ўспамінаў беларускага юнака спад Баранавічаў „Сашы Нёмана" (мянюшка), які ў гады вайны быў жаўнерам беларускіх антыпартызанскіх аддзелаў. Anthony Richardson. No Place to Lay My Head. London, Odhams Press Limited, 1957, p. 254. У гэтых успамінах перададзенае бачанае й перажытае беларускім вясковым юнаком у гады, калі па ягонай зямлі у крывавым на жыцьцё й сьмерць змаганьні тапталіся акупанты. Пададзеныя ў успамінах факты бясспрэчна аўтэнтычныя. У ўспамінах добра перададзеныя настроі ў ваенныя гады народу ды трагічнае палажэньне беларускага сялянства. Тэкст успамінаў ілюстраваны рысункамі самога „Нёмана".

І вялікая кніга К. Акулы „Змагарныя дарогі" 1962 году мэмуарнага характару, хоць і прысьвечаная яна галоўна долі беларускіх жаўнераў за межамі ўжо свае зямлі, іхнай вандроўцы па краёх Заходняе Эўропы. Зьяўляліся й артыкулы-ўспаміны ў розных беларускіх газэтах і часапісах. Асабліва каштоўная зь іх, напісаная Маталянінам, хроніка ваенных гадоў мястэчка Берасьцейшчыны Моталя й яго ваколіцаў, што друкавалася ў нумарох 2-5 часапісу „Зважай" у гадох 1975-76.

Трэба аднак прызнаць, што беларуская мэмуарыстыка пра ваенныя гады, якая паказалася на Захадзе, бяручы на ўвагу важнасьць гістарычнае пары ды не малы лік беларускіх удзельнікаў падзеяў тае пары за межамі свайго краю, непамерна малая.

Ня пісаць у палітычна вольных умовах успамінаў і з гадоў ваеннае пары, і наагул, тым, хто напісаць іх мог-бы, прыносіць вялікую нацыянальную шкоду асабліва дзеля таго, што ў падсавецкай Беларусі пішацца й друкуецца пра гэта, пад дыктоўку партыі й Масквы, вельмі шмат. Блізу ўсё апублікаванае ў гэтай галіне ў БССР падае падзеі недалёкае гісторыі ў сьвятле груба тэндэнцыйным, здэфармаваным, бо толькі гэтак пісаць дазваляе партыя. У апублікаваных у БССР успамінах апісваюцца толькі зьдзекі й зьверствы над народам акупантаў нямецкіх, але ніколі акупантаў расейска-бальшавіцкіх. У іх ні слова пра масавы бальшавіцкі тэрор, арышты, дэпартацыі жыхарства, нішчэньне ў канцэнтрацыйных лягерох, фізычную расправу па турмах НКВД.

Калі Беларусы вольнага сьвету ня будуць пісаць і публікаваць успамінаў, хай пройдзе й ня вельмі навет даўгі час, як адыйдуць у вечнасьць сьведкі падзеяў і там, у БССР, і тут, на эміграцыі, адзінай крыніцай веды пра мінулыя гады для нашага маладога пакаленьня будуць толькі гэныя бальшавіцкія інфармацыі, інакш кажучы, схвальшаваная гісторыя вайны на беларускай зямлі. І ня толькі для Беларусаў, але й для чужынцаў, што будуць цікавіцца гісторыяй Беларусі.

Вось таму выхад сёлета ў сьвет у выдавецтве Беларускага Выдавецка-Мастацкага Клюбу „Пагоня" ў Тароньце кнігі ўспамінаў д-ра Янкі Малецкага „Пад знакам Пагоні", гэта важная ў галіне беларускае гістарычна-мэмуарнае літаратуры падзея. Кніга добра тэхнічна аформленая, у прыгожай каляровай вокладцы мастака Леаніда Дэнісэнкі, мае 200 бачынаў друку сярэдняга кніжнага фармату. У кнізе процьма аўтэнтычных фактаў з падзеяў мінулае вайны на землях Беларусі. Сваю кнігу аўтар прысьвяціў памяці Міхася Вітушкі, Усевалада Родзькі, Уладзімера Шавеля. У ўводным слове „Ад Аўтара" д-р Малецкі піша:

„Мэта кніжкі — перадаць для гісторыі праўдзіва падзеі на нашай бацькаўшчыне ў Другую Сусьветную вайну, паказаць вялікі ўздым народу ў змаганьні за свае правы ды ягоную працу над адбудовай вольнага жыцьця. Яна разам і прызнаньне тысячам суродзічаў, якія ў цяжкую пару змаганьня з ворагамі не шкадавалі сваіх сілаў, маёмасьці, свайго жыцьця.

„Што апісаў у кніжцы, таго ў бальшыні быў сьведкам, тое сам перажыў. Чаго ня бачыў, тое запісана ад веры годных людзей. Калі пісаў, ніколі ня мінаўся з праўдай, ці гэта будзе каму падабацца, ці не."

У часе нямецкае акупацыі аўтар кнігі быў спачатку заступнікам старшыні, а пасьля старшынём Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні. Гэты Камітэт прарабіў тады вялізарную працу ў галіне культурна-нацыянальнай і палітычна-адміністрацыйнай. Згуртаванымі пры Камітэце беларускімі культурна-нацыянальнымі кадрамі ён выдатна дапамог у наладжваньні на землях Беларусі беларускага самакіраўніцтва й культурна-грамадзкае працы. Важнаю была асабліва праца Камітэту ў абароне беларускага жыхарства Вільні й Віленшчыны й перад нямецкімі акупантамі, і перад агрэсыўным лятувіскім шавінізмам.

Пасьля выезду зь Вільні д-р Малецкі быў дзейным у лекарскай галіне ў Баранавічах, а ад пачатку 1944 году й да рэакупацыі Беларусі арміямі Масквы, ён быў на становішчы намесьніка Беларускай Цэнтральнай Рады ў Вялейцы. Калі „Саша Нёман" падзеі вайны бачыў галоўна з боку трагічнае долі беларускае вёскі, а грунтоўны вопіс Маталяніна передае жыцьцё ў гады вайны аднаго беларускага мястэчка, успаміны д-ра Малецкага маюць шырэйшы й тэрытар'яльны, і гістарычна-нацыянальны засяг. У ягоных успамінах пераказаныя падзеі вайны, як яны адбіваліся на ходзе жыцьця трох важных большых асяродкаў краю — Вільні, Баранавічаў, Вялейкі.

У сваёй кнізе аўтар пераконліва паказаў, што ў цяжкія часы дзвёх акупацыяў — бальшавіцкай і нямецкай — беларускі народ выявіў нязвычайную жывучасьць і вялікую духовую моц. І гэта адна зь бясспрэчных каштоўнасьцяў кнігі „Пад знакам Пагоні". На прыведзеных канкрэтных прыкладах аўтар добра паказаў патрыятычны ўздым беларускага жыхарства пры арганізацыі свайго мясцовага самакіраўніцтва, свайго школьніцтва, паліцыі, вайсковых фармацыяў пад нямецкай акупацыяй. Гэта была натуральная рэакцыя пасьля гадоў нацыянальнага ўціску й перасьледу і ў БССР і на землях Заходняе Беларусі пад Польшчай. Пасьля іх, асабліва на пачатку нямецкае акупацыі, адчувалася быццам і запраўды настала „свабода", і народ прыступіў энэргічна да перабіраньня ў свае рукі справаў свайго жыцьця.

Не малую гістарычную каштоўнасьць мае й шырокае насьвятленьне ў кнізе дачыненьняў да беларускага жыхарства лятувіскіх шавіністых ды іхных дэнацыяналізацыйных мерапрыемстваў. З гэтага гледзішча дасканальна напісаны разьдзел кнігі „Шукаем ‚Літоўцаў' ".

Высокія прадстаўнікі нямецкіх акупацыйных уладаў беларускае Віленшчыны, пра якую Лятувісы пераконвалі Немцаў, што яна заселеная жыхарствам лятувіскім, пастанавілі самі наведаць гэтыя мясцовасьці, каб пераканацца, дзе-ж праўда. Да помачы сабе яны папрасілі д-ра Малецкага, як старшыню Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, які гэтыя мясцовасьці добра знаў. І вось наведалі яны Трабы, Ашмяну, Крэва, Альшаны, Багданава ды іншыя мясцовасьці. Там ня толькі не аказалася ніводнага Лятувіса, але ніхто пра іх там навет і ня чуў. Гэты поўны гумару й палітычнае гіроніі абразок мае сваю актуальнасьць і сяньня, бо пра названыя мясцовасьці лятувіскія аўтары й цяпер пішуць, як пра „этнічна лятувіскія", ды ў бальшыні Масква іх і далучыла да Лятувіскае ССР.

Пасьля кароткага прабываньня ў Баранавічах, дзе д-р Малецкі працаваў у галіне лекарскай, ад пачатку 1944 году й да часу выгнаньня Немцаў з акупаваных імі беларускіх земляў, ён займае адказнае становішча акруговага намесьніка Беларускае Цэнтральнае Рады ў Вялейцы й там бярэ асабліва актыўны ўдзел у арганізацыі й разбудове Беларускай Краёвай Абароны. У кнізе на канкрэтных прыкладах аўтар паказаў, зь якім патрыятычным энтузіязмам ішла беларуская моладзь у Беларускую Краёвую Абарону, уважаючы яе за надзейны зачатак свае, канечнае для нацыянальнае самаабароны, збройнае сілы. Трэба адзначыць, што ацэна дзейнасьці Беларускай Цэнтральнай Рады ў ваенныя гады ў аўтара пазытыўная й прынцыпова правільная.

Кніга аднаго аўтара, які меў магчымасьць у ваенныя гады назіраць падзеі з колькіх толькі асяродкаў тагачаснага нацыянальна-грамадзкага жыцьця, ня можа, пэўна-ж, даць поўнага ўсебаковага вобразу таго, што ў часе вайны адбывалася на землях Беларусі. І ня можна дакараць аўтара за тое, што ён і ня прэбуе „абняць неабнятнае". У кнізе адбітак назіраньняў і перажываньняў аднаго актыўнага ўдзельніка тае пары, а іх былі тысячы. І толькі зразумела, што, як заўсёды ў успамінах, некаторым падзеям і справам, якія аўтара больш уразілі, аддадзена часам і непамерна шмат увагі, іншыя-ж згаданыя коратка, або засталіся й ня ўспомненымі.

Кніга д-ра Малецкага толькі пацьвярджае выказаную на пачатку артыкулу думку, што пара нашым суродзічам вольнага сьвету зьвярнуць большую ўвагу на мэмуарна-дакумэнтальную літаратуру — трэба яе пісаць, трэба яе публікаваць. Гэта іхны нацыянальна-гістарычны абавязак. Чаго ня зробяць яны, тое пасвойму апішуць, хвальшуючы гісторыю беларускага народу з гледзішча каляніяльна-вялікадзяржаўных інтарэсаў Масквы, бальшавікі.

**Ст. Станкевіч**

# ГОЛАС БЕЛАРУСА НА МІЖНАРОДНЫМ ВЕЧЫ

**(9-ТЫ КАНГРЭС СУСЬВЕТНАЙ АНТЫКАМУНІСТЫЧНАЙ ЛІГІ)**

(Сэул, Карэя). Ад 30 красавіка да 4 травеня сёлета адбываўся 9-ты Кангрэс Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі ў сталічным горадзе Вольнай Карэі Сэул з удзелам 306-х дэлегатаў з усіх кантынэнтаў і ад бальшыні народаў сьвету, у тым ліку й прадстаўніка Беларускага народу—начальніка Беларускага Вызвольнага Фронту ў Аўстраліі — сп. А. Алехніка.

Беларусь, як ведама, ужо ад даўжэйшага часу прынятая ў гэтую вялікую й важную міжнародную арганізацыю, як паўнапраўны сябра міжнароднай сям'і народаў, а Беларускі Вызвольны Фронт прыняты й вызнаны як легітымнае прадстаўніцтва паняволенага Беларускага народу.

Сам факт здабыцьця гэтага прызнаньня паўнапраўнасьці й бясспрэчнага права на незалежнасьць Беларусі ўплывовай міжнароднай арганізацыяй сьветчыць пра вялікія посьпехі й дасягненьні вызвольнага змаганьня, ведзенага ўжо дзесяткамі гадоў Беларускім Вызвольным Фронтам на міжнароднай дыпляматычна-палітычнай ніве ды таксама паказвае на пільную неабходнасьць далейшага вядзеньня гэтай дзейнасьці.

Нельга забывацца, што невялікі час таму бальшыня народаў сьвету нічога ня ведала пра Беларусь, а пад націскам і ўплывам густа сеянай прапаганды ворагаў, як чырвоных, гэтак і белых, навет і не хацела знаць Беларусі. Беларускім дэлегатам, якія ўпяршыню прабілі сабе дарогу да міжнароднай трыбуны, даводзілася змагацца за кажнае слова ды траціць час і сілы на тое, каб дабіцца гэтага права для Беларусаў. Аднак непахісная наважанасьць беларускіх патрыётаў перамагла войструю й подлую акцыю ворагаў, яны ўсьведамілі ў сваю карысьць шмат якія іншыя народы сьвету ды здабылі ад іх поўнае прызнаньне й вялікую дыпляматычную дапамогу Беларускаму народу ў ягоным змаганьні за Вольнасьць і Незалежнасьць . . .

Гэтае прызнаньне й дапамога найбольш зырка былі выяўленыя пацьверджаньнем 5-ым Кангрэсам Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі ў Маніле, Фліпіны, у 1971 годзе прадстаўленай Беларускім Вызвольным Фронтам „Рэзалюцыі ў пытаньні незалежнасьці Беларусі". У рэзалюцыі гэтай прадстаўніцтвы вольных народаў сьвету, што ўваходзяць у Сусьветную Антыкамуністычную Лігу, першы раз у гісторыі аднагалосна пацьвердзілі **бясспрэчнае права Беларускага народу на Вольнасьць і Незалежнасьць, моцна асудзілі расейскі імпэрыялізм за паняволеньне й вынішчэньне Беларускага народу ды запэўнілі дапамогу Беларускаму народу цяпер і ў будучыні аж да таго часу, калі Беларусь узноў будзе Вольнай і Незалежнай.**

Ад гэнага часу Беларусы з кажным годам здабывалі штораз большыя посьпехі на міжнародным форуме. Беларускі дэлегат і ў сёлетнім годзе ўзноў вылятаў у далёкую дарогу, каб і далей голасна прамаўляць зь міжнароднай трыбуны, пашыраючы праўду аб Беларусі сярод іншых народаў сьвету. Прыгожае й цёплае надвор'е раньняй вясны й надзвычайна прыхільнае прыняцьце Карэйцамі стварылі ўрачыста-сьвяточны настрой. Беларускі дэлегат прыляцеў у Сэул 29 красавіка, быў спатканы на аэрадроме кіраўнікамі Лігі й прадстаўнікамі карэйскага ўраду. Падчыркваючы важнасьць Кангрэсу й аўтарытэт Антыкамуністычнай Лігі, карэйскі ўрад перадаў свой мадэрны будынак Нацыянальнага Парляманту на карыстаньне й адбыцьцё Кангрэсу. Над сталамі ў галоўнай залі Парляманту былі прымацаваныя таблічкі з назовамі краёў, што прыймалі ўдзел у Кангрэсе, а на адным зь першых сталоў, побач із ЗША ды іншымі краямі, красавалася імя БЕЛАРУСЬ, адзначаючы месца для беларускага дэлегата.

9-ты Кангрэс Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі быў адным з найлепшых з гледзішча ягонае арганізацыі й посьпеху ды важнасьці абмяркоўваных пытаньняў і прынятых пастановаў. Падчас кароткіх перапынкаў ды падчас афіцыйных прыняцьцяў беларускі дэлегат меў нагоду спаткацца з прэм'ер-міністрам Карэі Чоі Кыю-гаг, міністрам абароны Суг Джыонг-чул, старшынём вэтэранаў, прадстаўніком міжнародных радыяперадачаў ды іншымі ўплывовымі асобамі.

Кангрэс закончыўся зацьверджаньнем Камунікату, у якім выказаныя ідэйныя прынцыпы й пляны дзейнасьці на будучыню й якія датычацца да пытаньня Беларусі й іншых паняволеных народаў. У Камунікаце сказана: **„Ліга стаіць за разьдзел Расейскае каляніяльнае імпэрыі — г. зв. Савецкага Саюзу й ягоных сатэлітаў ды моцна падтрымлівае гэраічнае змаганьне за вольнасьць і нацыянальную незалежнасьць усіх паняволеных народаў, як Беларусі, Украіны, Лятувы, Эстоніі, Латвіі, Грузіі, Азэрбайджану, Армэніі, Туркестану, Баўгарыі, Румыніі, Вугоршчыны, Чэхіі, Славакіі, Польшчы, Харвацыі, Альбаніі, Кубы і іншых".**

Беларускі Вызвольны Фронт заклікае ўсіх суродзічаў прыйсьці з дапамогай ягонай дзейнасьці ды рэгулярна даваць хоць невялікія грашовыя складкі ў Беларускі Нацыянальны Фонд, зь якога пакрываюцца кошты вызвольнага змаганьня. **Нельга ніколі забывацца, што мільёны Беларусаў і Беларусак аддалі сваё жыцьцё ў змаганьні, каб жыла Беларусь. А мы ў Вольным Сьвеце дык і пагатове не павінны шкадаваць свайго часу й колькіх даляраў у год на змаганьне за гэтую самую сьвятую ідэю Незалежнасьці Беларусі.**

**М. З.**

## ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ



Крыжовы ход вакол царквы ў часе малебну

23 травеня сёлета адбылося парахвіяльнае сьвята ў БАПЦаркве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе. А 10-ай гадзіне раніцы Яго Высокапраасьвяшчэнства Мітрапаліт Андрэй адправіў архірэйскую Божую Службу ў асысьце а. Максіма з Дэтройту й пратадыякана Міхася Страпка, пасьля якое быў адпраўлены Малебен з крыжовым ходам навакол царквы. У канцы Мітрапаліт Андрэй сказаў вельмі прыгожую казань на тэму парахвіяльнага сьвята й нашае Патронкі — Жыровіцкае Божае Маці. Адразу пасьля Божых Службаў адбыўся супольны абед, які падрыхтавалі жанчыны.

Падчас абеду старшыня Парахвіяльнае Рады прывітаў усіх прысутных парахвіянаў і гасьцей ізь сьвятам ды падзякаваў жанчынам за падрыхтаваны смачны абед. Затым выступілі з прывітаньнямі а. Максім ад БАПЦарквы Сьвятога Духа ў Дэтройце й інж. Іван Бруцкі ад Парахвіяльнае Рады ў Дэтройце. Ад суседняй Украінскай Аўтакефальнай Царквы прывітаў а. Фёдар, падчыркваючы вялікае значаньне беларускай царкоўнай аўтакефаліі ды заклікаючы да супрацоўніцтва між беларускай і ўкраінскай цэрквамі ў Кліўленьдзе. У канцы Мітрапаліт Андрэй, прывітаўшы ўсіх ізь сьвятам, прыгадаў самы пачатак заснаваньня парахвіі й зазначыў, што сёлета спаўняецца 25-цігодзьдзе гэтае парахвіі, якое мусіць быць урачыста адзначанае яшчэ сёлета.

Абед праходзіў у вясёлай атмасфэры да самага вечара з народнымі сьпевамі пад акардыён сп. Ул. Літвінкі. Варта адзначыць, што ў парахвіяльным сьвяце прыняло ўдзел шмат людзей, а таксама быў вялікі ўдзел нашае моладзі.

**К. К.**

 

# ПАВІЛЬЁН "МЕНСК" У "КАРАВАНЕ" Ў ТАРОНТА



**У павільёне „Менск" „Каравану" Таронта 1976**

„Караван" — міжнародная выстаўка адбываецца кажны год у Тароньце й абымае сабой паўсотні раськіданых па ўсёй мэтраполіі павільёнаў. Сёлета „Караван" трываў дзевяць дзён ад 18-га да 26-га чырвеня ўлучна.

Беларускі павільён „Менск" ужо шосты з чаргі год браў удзел у „Караване" й заўсёды знаходзіўся ў будынку Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру на 524 Ст. Клярэнс Аве. Ініцыятарам у 1971, ды арганізатарам праз усе гэтыя гады, за выняткам 1974, калі „Менск" спансараваў ККБК, быў Саюз Беларускае Моладзі Канады.

Заданьнем павільёну было прадставіць беларускую культуру, што выражалася-б у мастацкім яго афармленьні-выстаўцы, стравах, напітках, мастацкай праграме, ды агульнай атмасфэры павільёну. Чынным павільён быў кажны дзень ад 6-ай да 11-ай вечара ды ў суботы й сьвяты ад 2-ой папаўдні да 11-ай вечара.

Каб сарганізаваць ды ўтрымаць павільён у спраўнасьці праз дзевяць дзён, патрэбны быў добры падзел працы, патрэбны быў супольны высілак — удзел шматлікіх адданых галоў і рук да працы, патрэбная была моцная матывацыя — энтузіязм арганізатараў. Праца падзелена была так: Старшыня павільёну — Паўлюк Пашкевіч, „Мэр Менску" — Лявон Сладкоўскі, „Міс Менску" — Эва Пашкевічанка. Яна-ж была й адказной за мастацкую праграму. За кухню адказвалі — Аляксандра Сладкоўская й Валя Веласьніцкая, за бар — муж Аляксандры Сладкоўскае сп. Гогэн. Мастацкае афармленьне павільёну-выстаўкі належалі да аўтара гэтых радкоў з дапамогай Паўлюка Пашкевіча ды з услугай шматлікіх суродзічаў з Канады й ЗША, што пазычылі бясцэнныя экспанаты беларускае культуры.

Агульны тон надавалі павільёну княжага колеру цёмна-чырваныя дываны, што на франтовай сьцяне абапал ахіналі беларускія нацыянальныя эмблемы ды з павагай зьвісалі із сьцен павільёну. Ім шумелі гімны пушчаў зялёныя пасьцілкі, песьняй гоняў і лугоў адклікаліся залатыя, сінія й ружовыя дзяружкі-дываны. Між іх бяліліся расой на сонцы выбеленыя намёткі й ручнікі.

„Край мой родны, дзе-ж у сьвеце край другі такі знайсьці!..." Беларускія маткі й сёстры, слава вам за дываны! Ды ці толькі дываны, за бліскучыя дымкай абрусы, кашулі й андаракі, хвартухі і паясы, паясы... Усё гэта аўтэнтычнае й як скарбы перахоўванае на чужыне, каб парой такой, як „Караван", выявіцца для духовай асалоды гледачом.

Апрача тканінаў у кампазыцыі выстаўкі былі рэчы вязаныя кручком, багатая калекцыя вышывак характэрным беларускім геамэтрычным мона- або радзей дву-хромным узорам, скульптура й рэліефная разьба ў дрэве, вырабы зь беларускага шкла й багаты збор інкрустацыі саломкай.

Вышыўкі выкананыя перадусім беларускімі жанчынамі на чужыне, сярод якіх найболей славіцца сваім вышывальным мастацтвам унучка братоў Луцкевічаў сп-ня Юля Андрусышына, упрыгожвалі прадметы штодзённага ўжытку, як сарвэты, дываны, абажуры, падушкі, вокладкі да альбомаў і запісных кніжак, закладкі да кніжак ды розныя дробныя рэчы.

Інкрустацыі саломкай, выкананыя ў Жлобіне ці Берасьці, прадстаўлялі бытавыя абразкі, як: „Пральля", „Ля крыніцы", „Кашар", „Музыкі", „Маладыя" і „Навасельле". Яшчэ багацейшай была калекцыя інкрустацыі саломкай беларускага майстры з Антарыйскага Лёндану Міколы Шуста. Ягоныя абразкі прадстаўлялі стылізаваныя кветкі, разнаколернай саломкай геамэтрычным узорам выложаныя былі рамкі для абразоў, малыя, большыя й вялікія скрынкі для біжутэрыі ды іншых цэнных рэчаў і раскошныя сталы.

Майстэрства Міколы Шуста й Юлі Андрусышынай выклікала асаблівае зацікаўленьне прыхільнікаў ручных прац і такія спасьцярогі:

„Я шмат у якіх павільёнах была, але такой багатай выстаўкі й такіх прыгожых экспанатаў нідзе ня бачыла, фантастычна!".

Між вырабаў з дрэва апрача дробных рэчаў характару забавак, як лялькі, грыбкі, былі высокамастацкае якасьці скульптуры зуброў, рэліефная разьба на талерках і шкатулках. Вырабы зь беларускага шкла рэпрэзэнтавалі рознаколернага крышталу чаркі да віна. Цэнныя скульптуры й рэліеф Еўфрасіньні Полацкай у серабры знаходзіліся за шкляной вітрынай.

Пэўне-ж, выстаўка не абыйшлася бяз поўных камплетаў, улучна з лазовымі лапцямі, старых аўтэнтычных народных касьцюмаў, прасьніцы з кудзеляй ды ахапку, жаноцкай гордасьці, лёну...

Ой, сеяла, я сеяла лянок,
Ой, сеяла, прыгаварывала! —
Ой, сеяла, прыгаварывала,
Міленькага ды прыманівала!..



**У Павільёне „Менск" моладзь адбіваньнем такту памагае танцорам на сцэне**

Афармленьне павільёну дапаўнялі абразы Пётры Міраповіча й Віктара Жаўняровіча. Асаблівую ўвагу зьвяртаў на сябе патрэт Доктара Франьцішка Скарыны са слаўнага града Полацка. Патрэт выкананы Пётрам Міраповічам у 1967 р. для Выстаўкі старога Беларускага друку ў Тароньце, што адзначала 450-я ўгодкі беларускага друку. Патрэт Франьцішка Скарыны займаў цэнтральнае месца й ачольваў выставачнае гняздо кніг — мастацкай і навуковай беларускай літаратуры з Бацькаўшчыны й замежжа ды літаратуры аб Беларусі ў ангельскай, нямецкай ды расейскай мовах. Апрача кніг у гнязьдзе гэтым былі апраўленыя ў рамкі: карта БНР з 1918 году, двуколерныя адбіткі загаловачных бачын Бібліі Скарыны й Статуту Вялікага Княства Літоўскага выданы ў 1967 г. Публічнай Бібліятэкай Нью Ёрку з нагоды 450-тых угодкаў беларускага друку; юбілейныя маркі Скарыны, выданыя БІНіМ-ам у Нью Ёрку ў 1972 г. з нагоды 450-тых угодкаў друку на беларускай зямлі й афіша з Тыдня Беларускіх Студыяў ў Атаве ў 1975 г.

Прыгожыя выданьні й рэдкія кнігі, прыкладам „Старажытныя Скарбы Беларускі" ці Ткацтва Случчыны", былі выстаўленыя за шкляной вітрынай. Побач яе на стале кнігі для разгляданьня, чытаньня, ці эвэнтуальнага набыцьця. Былі тут кнігі савецкага выданьня, мюнхэнскага выданьня „Бацькаўшчыны", БІНіМ-у, „Англа-Беларускага Таварыства" ў Англіі, ККБК („Беларуская Мова"), „Пагоні", Арганізацыі Беларускае Моладзі ЗША ды інфармацыйныя лістоўкі аб Беларусі ў ангельскай мове.

Перад увахадам у павільён вялікая, зробленая аплікацыяй на зялёным сукне, схэматычная карта Беларусі із сталіцай Менскам, суседнімі дзяржавамі ды Балтыкай, давала наведвальнікам хуткую арыентацыю лякалізацыі Беларусі ў Эўропе.

1976 — гэта год 21-ай Алімпіяды ў Мантрэалі. Аб тым, што беларускія спартоўцы бралі й будуць браць выдатны ўдзел у алімпійскіх гульнях, гаварылі выкананыя Івонкай Сурвіла аплікацыяй на сукне, фігуры ў акцыі бліскучых беларускіх спартоўцаў — Вольгі Корбут і Аляксея Мядзьведзя.

Павільён заліты дыскрэтным сінім і чырвоным сьвятлом, белым асьветленыя толькі выставачныя гнёзды. Чуваць была лірычная „Алек-сан-дры-ы-на, якою ты была?" або завіхастая „Ка-сіў Ясь канюшыну, паглядаў на дзяўчыну..." Каля гасьцей за сталамі ўвіхаюцца дзяўчаты й хлопцы ў народнай вопратцы. Яны частуюць наведвальнікаў прысмакамі з кухні й бару. Моладзі ў беларускіх народных касьцюмах у павільёне шмат. Яна, як некалі бывала на кірмаш, зьехалася з далёкага Нью Ёрку й Нью Джэрзі на „Караван" у Таронта. Яны, маладыя хлопцы й дзяўчаты, прыехалі ня толькі для ўцехі, але і каб памагчы арганізатарам — беларускай моладзі Канады. Яны танцуюць і пяюць на сцэне, яны абслугоўваюць гасьцей пры сталох і выставачных гнёздах, яны працуюць у кухні й бары. Яны парадкуюць павільён кажны дзень перад ягоным адкрыцьцём, а пасьля закрыцьця а 11-ай гадзіне вечара, моладзь забаўляецца. Да яе ў „Менск" прыходзіць моладзь зь іншых павільёнаў, найчасьцей з суседняга харвацкага „Загрэбу" й у „Менску" пачынаецца „шматкультурны канцэрт". Часам наша моладзь ідзе ў вадведкі ў іншыя павільёны, навет да даволі далёкага ад „Менску" „Вільнюса". Там Даньчык пяе Літувісам лірычную „Беларусачку", іншыя пад акардыён Андрэя танцуюць „Лявоніху", тады слухаюць „канцэрту" гаспадароў ды адзін ад другога вучацца шанаваць і ганарыцца ўсім сваім!

Але вернемся ў „Менск"! Вось на сцэну выходзіць энэргічная й спрытная Алеся Кіпель зь Нью Джэрзі. Яна вітае спадарынь і спадароў, „лейдыз энд джэнтэльмэн", гаворыць аб апрычонасьці беларускага народу, беларускай старой і багатай культуры, аб беларускім гуманістым і першадрукары на ўсходзе Эўропы Доктару Франьцішку Скарыне, аб беларускай гімнастцы Вользе Корбут і спартоўцу А. Мядзьведзю, аб песьнях і танцах, якія за хвіліну будуць выконвацца на сцэне. Наканец прадстаўляе Багдана Андрусышына зь Нью Ёрку, які пад гітару выконвае „Беларусачку", „Спадчыну", „Ручнікі" ці „Лявоніху". Далей пад акардыён Андрэя Рагулі з Антарыйскага Лёндану ідуць танцы. Жаноцкія групы выконваюць „Вянок" і „Таўкачыкі", а мяшаныя — „Мікіту" й „Лявоніху". Звычайна мастацкія праграмы, што адбываюцца рэгулярна амаль кажную гадзіну, складаюцца з дзьвюх песень і трох танцаў зь „Лявоніхай" на заканчэньне. Пасьля выступаў на сцэне агульныя скокі на залі.

Урачыстым, а разам з тым вясёлым і пачуцьцёвым, было заканчэньне „Каравану" ў „Менску". Перад апошняй мастацкай праграмай Алеся Кіпель выразіла надзею, што наведвальнікі добра й карысна праводзілі час у нашым павільёне, ды пажадала: „Да пабачаньня ў „Менску" ў наступным годзе!" Калі прагрымела „Лявоніха", „Мэр Менску" — Лявон Сладкоўскі дзякаваў усім працаўнікам і наведвальнікам, усім тым, што спрычыніліся да ўдачы павільёну. Ён, запрашаючы на сцэну, прадстаўляў прысутным: Старшыню павільёну — Паўлюка Пашкевіча, „Міс Менску" — Эву Пашкевічанку, майстру цэрэмоніі — Алесю Кіпель, музыку — Андрэя Рагулю, салістага — Багдана Андрусышына, тады — усіх танцораў зь Нью Ёрку, усіх танцораў зь Нью Джэрзі, танцораў з Канады, няўтомных працаўнікоў кухні, бару й абслугі гасьцей. Бурныя воплескі з залі віталі стройную беларускую моладзь, што запоўніла сцэну.

Бязумоўна, арганізацыя павільёну вымагае вялікіх супольных высілкаў, адвагі й рашучасьці тых, што падпісваюць кантракт, бяручы на сябе маральную й праўную адказнасьць за ўдачу павільёну. Акалічнасьць, што ўдзел павільёну ў „Караване" каштуе $800.00 — найменш істотная. Істотнымі ёсьць цяжкасьці, перашкоды, перамаганьне якіх вымагае ад арганізатараў ахвярнасьці й самавырачэньня. Але-ж бяз высілкаў, безь перамаганьня перашкодаў, без ахвярнасьці няма і дасягненьняў! Тое, што даецца лёгка, ня мае вялікае вартасьці. Вялікія рэчы даюцца заўсёды цяжка. А вынікі высілкаў былі калясальныя! „Менск" з году ў год ня толькі рабіў вялікую прапаганду, але й быў надзвычайнай школай для арганізатараў — нашай моладзі. Назіраючы моладзь, робіцца відавочным, як кажны год яна расьце й вырабляецца, як кажны год яна дае сабе ляпей рады, як кажны год павільён „Менск" прыцягвае да сябе ўсё большыя колы беларускае моладзі.

Дык прызнаньне вам, арганізатары „Менску", і найлепшыя пажаданьні плённай працы на будучыню!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## ПРА БЕЛАРУСАЎ Ў ЧЫКАГА




**На парадзе Дня Сьцягу справа налева: прадстаўнікі Беларусі (сп-чна Ірэна Рамук) Аргентыны й Ірляндыі**

В. Пав. Рэдактар, прашу зьмясьціць у вашай газэце наступнае:

Будучы ў Чыкага, я хацеў спаткацца із сваймі суродзічамі-Беларусамі. Пазваніў да др. В. Рамука. На шчасьце, застаў яго дома. Як прыемна было чуць голас свайго знаёмага, які ў гор. Рэгэнзбургу вельмі шмат дапамагаў пры арганізаваньні Беларускае Гімназіі. Др. В. Рамук запрасіў мяне спаткацца зь ім і зь іншымі Беларусамі на наступны дзень, калі мелася адбыцца сьвяткаваньне Дня Сьцягу. У парадзе, даведаўся я, будуць браць удзел 300 групаў розных нацыянальнасьцяў, у тым ліку й Беларусы.

12-га чырвеня я з жонкай і сынам паехалі на ўмоўленае месца. Крыху спазьніўшыся і йдучы па вуліцы, на якой адбываўся парад, бачым ідуць Баўгарцы із сваім плякатам. Гляджу праз натоўп людзей, а тут за імі, у нацыянальных касьцюмах, нашыя беларускія дзяўчаткі нясуць плякат, на якім выпісана "Bielarus". Др. Рамук заўважыў нас і на ягоную прапанову мы далучыліся да іхнае групы.

На спэцыяльнай трыбуне прыймаў парад мэр г. Чыкага Дэйлі й іншыя прадстаўнікі. Калі мы зблізаліся да трыбуны, дык я сваім вушам ня верыў, як праз галосьнік была абвешчаная Беларусь, краіна паняволеная камунізмам, ды тое, што ейныя прадстаўнікі змагаюцца за ейнае вызваленьне. Проста не хацелася верыць, што Амэрыканец, які абвяшчаў усе групы, гэтак выразна абвесьціў Беларусь. Трэба прызнаць, што спадарства Рамукі й іншыя Беларусы Чыкага правялі вялікую ўсьведамляльную працу на амэрыканскім грунце. Група Беларусаў на парадзе была невялікая, але вельмі добра аформленая і, пад кіраўніцтвам сп-ні В. Рамук, рэпрэзэнтавалася надзвычайна. Дык нічога дзіўнага, што мэр Дэйлі й публіка сустрэлі яе гарачымі воплескамі.

Дык варта ўзяць прыклад з чыкагаўскіх Беларусаў і ня ўжываць у перакладзе назову нашае Бацькаўшчыны "Bielarussia" й збліжаць яе з "Russia", а ўжываць у праўдзівым назове Беларусь — Biełaruś.

Чэсьць і слава Беларусам Чыкага!

З глыбокай пашанай **Х. Ш.**

**БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА**

**паведамляе:**

**сёлета ў канцы лістапада адбудзецца канфэрэнцыя, прысьвечаная 25-годзьдзю Інстытуту й пытаньням беларусаведы. Дакладнейшая інфармацыя пра канфэрэнцыю будзе пададзеная ў вадмысловых паведамленьнях.**

# КОЛЬКІ СЛОВАЎ РАЗЬВІТАНЬНЯ Й УДЗЯЧНАСЬЦІ

**(НА СЬМЕРЦЬ ДОКТАРА ЯНКІ СТАНКЕВІЧА)**



Я ня мог асабіста аддаць апошняй пашаны й разьвітацца з памерлым маім Дзядзькам Доктарам Янкам Станкевічам, бо ў часе ягоных пахаронаў, будучы хворым, знаходзіўся ў шпіталі. Але ўважаю за свой маральны абавязак зрабіць гэта хоць-бы ў форме гэтага артыкулу. Д-р Я. Станкевіч быў мне вельмі блізкім і дарагім, як родны брат маёй маці, як чалавек, што вельмі шмат зрабіў дабра для мяне асабіста. За тое, што я мог здабыць сярэднюю й вышэйшую асьвету, я ўдзячны перш-наперш Д-ру Я. Станкевічу й ягонаму, а тым самым і майму далейшаму сваяку ксяндзу Адаму Станкевічу. За тое, што я ня быў зьнішчаны бальшавікамі ў 30-ых гадох сталінскіх пагромаў, я ўдзячны вылучна Д-ру Я. Станкевічу.

Пры гэтай нагодзе я адважваюся часткава раскрыць бадайшто нікому няведамы сакрэт. Скончыўшы сем клясаў Віленскае Беларускае Гімназіі вясной 1926 году, я, як і бальшыня гэткіх-жа сямікляcных выпускнікоў гэтае гімназіі, быў наважыўшыся нелегальна перабірацца ў БССР, каб у Менску здабываць вышэйшую асьвету ды ўлучыцца там у беларускую нацыянальную дзейнасьць, верачы, як і чуць ня ўсе Беларусы ў Заходняй Беларусі, што там, у БССР узапраўды будуецца беларускі нацыянальны дом, як было прынята тады казаць у Заходняй Беларусі. Калі вясной 1926 году выяжджаў зь Вільні на летнія канікулы ў сваю родную вёску Арляняты, паложаную 80 кілямэтраў на ўсход ад Вільні, то ўжо разьвітаўся з усімі, зь кім было трэба, з тым, што назад у Вільню ўжо не вярнуся, а пад восень гэнага 1926 году перайду польска-савецкую мяжу. І навет дамовіўся з вызначаным для мяне дзеля гэтае мэты Беларусам, што жыў пры самай польска-савецкай мяжы, які ў вызначаным часе меў перавесьці мяне цераз дзяржаўную мяжу.

Але, дзякаваць Богу, да гэтага не дайшло. Якраз летам 1926 году вярнуўся ў Вільню з Прагі чэскай, дзе ад 1923 году адбываў унівэрсытэцкія студыі, Д-р Я. Станкевіч. У Празе чэскай ён меў лепшую нагоду й магчымасьці пераканацца, што гэны беларускі нацыянальны дом у БССР будаваўся на вельмі хісткім і нятрывалкім фундаманьце. Моцнымі й пераконлівымі аргумэнтамі ён зрабіў на мяне патрэбны ўплыў, што я выкінуў з галавы навет думку пра ўцёкі ў БССР.

А ў гэным часе сотні выпускнікоў Віленскае Беларускае Гімназіі, як і іншых беларускіх і нябеларускіх гімназіяў, перабралася ў Менск, каб памагаць будаваць разрэклямаваны беларускі нацыянальны дом. Адно шмат пазьней стала вядомым, а ў часе нямецкае акупацыі Беларусі ў мінулую вайну дакумэнтальна пацьвердзілася, што амаль усе яны былі абвінавачаныя ў польскім шпіянажы й, як гэткія, фізычна зьнішчаныя ў часе крывавае яжоўшчыны ў 1937 годзе, а некаторыя й шмат раней, навет у 1930 годзе — першым годзе сталінскіх крывавых пагромаў на Беларусі. З увагі на мой гарачы тэмпарамант, думаю, я быў-бы сярод гэных першых ахвяраў сталінскага крывавага тэрору.

Іншае вялікае дабрадзейства, за якое я буду бязьмежна ўдзячны Д-ру Я. Станкевічу да канца свайго жыцьця, гэта маё ўзгадаваньне ў нацыянальным беларускім духу й прышчапленьне мне ад самага майго маленства пачуцьця гарачага беларускага патрыятызму. Д-р Я. Станкевіч і згаданы ўжо наш далейшы сваяк Адам Станкевіч яшчэ перад Першай Сусьветнай вайной вучыліся ў польскай каталіцкай духоўнай сэмінарыі ў Вільні, рыхтуючыся стацца ксяндзамі, гэтай бадайшто адзінай, побач з народнымі настаўнікамі, даступнай для беларускага селяніна інтэлігенцкай прафэсіі. Жывучы ў Вільні, яны навязалі цесную сувязь з газэтай „Наша Ніва", зь ейнымі рэдактарамі й супрацоўнікамі. Пад іхным уплывам абодвы яны ўсьведаміліся нацыянальна, — сталіся актыўнымі беларускімі патрыётамі й піянерамі пашырэньня беларушчыны ў беларускай каталіцкай вёсцы. Дзякуючы іхнай нацыянальна-ўсьведамляльнай дзейнасьці, нашая родная вёска Арляняты яшчэ перад Першай Сусьветнай вайной славілася, як гняздо беларускасьці ў цэлым Ашмянскім павеце. Будучы яшчэ ў дашкольным веку й ня могучы глыбей асэнсаваць беларускага нацыянальнага пытаньня й не разумеючы яшчэ некаторых ягоных аспэктаў, я ўжо тады, галоўна пад уплывам Д-ра Я. Станкевіча быў фанатычным патрыётам Беларусі.

За выняткам нашаніўскай паэткі Канстанцыі Буйлы, што жыве яшчэ ў Савецкім Саюзе й пасьля мінулае вайны сталася верным партыйным рупарам у паэзіі, Д-р Я. Станкевіч быў апошнім сярод жывых актыўным нашаніўцам. Факт гэты зьвязвае асобу Д-ра Я. Станкевіча з выдатнейшымі нашаніўцамі, а ягоную дзейнасьць — зь беларускім нашаніўскім адраджэнскім рухам.

Яшчэ большую вагу для гісторыі мае факт, што Д-р Я. Станкевіч быў апошнім сярод жывых, што прыймаў актыўны ўдзел у гістарычным паседжаньні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі ў Менску з 24 на 25 сакавіка 1918 году, на якім Беларусь была абвешчаная вольнай і незалежнай дзяржавай. Абодвы гэтыя факты вылучаюць асобу Памерлага спасярод сучасных беларускіх нацыянальных працаўнікоў, як аднаго зь піянераў беларускага нацыянальнага руху й аднаго зь дзеячоў зь вялікім і багатым стажам дзейнасьці.

Д-р Я. Станкевіч належаў да катэгорыі тае часткі беларускае нацыянальнае інтэлігенцыі, што, не зважаючы на ніякія асабістыя абставіны й палітычную каньюнктуру, ніколі не магла ў беларускім руху заставацца пасыўнай. Бесьперапынная нацыянальная актыўнасьць была натуральнай патрэбай ягонае душы, а глыбокая любасьць да ўсяго свайго роднага гэткай-жа патрэбай ягонага сэрца. Вялікая руплівасьць і самаахвярнасьць для дабра беларускае справы былі наказам ягонага нацыянальнага сумленьня.

Дыяпазон дзейнасьці Д-ра Я. Станкевіча быў надзвычайна шырокі. Ён зрабіў шмат у галіне палітычнай, грамадзкай, культурнай, навуковай, пэдагагічнай і рэдактарска-выдавецкай. Найвялікшыя аднак дасягненьні ён меў у галіне навуковай, як мовавед і часткава гісторык, надрукаваўшы з галіны гісторыі Беларусі значную колькасьць добрых папулярна-навуковых працаў. Ён пакінуў па сабе вялізарную колькасьць друкаваных у часапісах і асобнымі кніжнымі выданьнямі навуковых працаў з самых розных галінаў беларускае моваведы, некаторыя зь якіх, апрацаваныя на высокім навуковым узроўні, маюць не малую каштоўнасьць. Даўгі час перад вайной ён працаваў выкладчыкам беларускае мовы ў сярэдніх школах Вільні, а так-жа на віленскім і варшаўскім унівэрсытэтах.

Важнай пазыцыяй у дзейнасьці Д-ра Я. Станкевіча ў ЗША быў ягоны пераклад на беларускую мову Бібліі — кнігаў сьвятога пісьма старога й новага закону. Гэтая імпазантная сваім абыймом кніга (кніга старога закону бачынаў 840 + кніга новага закону бач. 260 — 1,100 бач.) была выдадзеная ў 1973 годзе ў Нью Ёрку Беларускім Навуковым Таварыства імя Праньцішка Скарыны, старшынём якога быў сам перакладнік.

У газэтным артыкуле нельга даць навет бібліяграфічнага паказьніка ягоных навуковых працаў, бо гэткая была вялікая іхная колькасьць, ня кажучы ўжо хоць-бы пра кароткую характарыстыку найважнейшых зь іх. Перавыданьне прынамся найважнейшых і сяньня рэдкіх ягоных навуковых працаў, як і выданьне працаў, зрыхтаваных ужо на эміграцыі, якія засталіся ў рукапісах, мусіла-б быць у найбліжэйшым часе зрэалізаванае, бо фінансавыя магчымасьці для гэтага ёсьць. Д-р Я. Станкевіч быў галоўным заснавальнікам паўсталае 14 жніўня 1975 году ў ЗША Беларускай Фундацыі Льва Сапегі й перадаў для яе вялікую бальшыню сваёй маемасьці для выдавецкае дзейнасьці Фундацыі. Трэба думаць, што ягоная жонка сп-ня Марыя Станкевічыха й абодвы старэйшыя сыны, актыўныя ў беларускім нацыянальна-грамадзкім жыцьці, парупяцца пра зарганізаваньне справы выданьня й перавыданьня ўсяго найлепшага з навуковае спадчыны Д-ра Я. Станкевіча.

Як ведама, агульна абавязвае прынцып, што пра памерлых трэба гаварыць або добра або нічога. На маю думку, гэтага выразу ў строга даслоўным значаньні браць нельга. Бо няма на сьвеце чалавека бязь якасьцяў, якія мы ўважаем адмоўнымі, а памылак ня робіць толькі той, хто наагул нічога ня робіць. Аб'ектыўна паказаць адмоўныя бакі й памылкі ані ня крыўдзіць і ня ганьбіць нікога з памерлых, наадварот, памагае для больш правільнае й справядлівае характарыстыкі дадзенае асобы. Усе добра ведаюць, што Д-р Я. Станкевіч быў чалавекам вельмі ўпорыстым і бескампрамісовым у сваіх паглядах, меў характар скрайна індывідуалістычны й цалкам апрычоны й адрозны ад людзей, сярод якіх знаходзіўся. У сувязі з гэтым быў ён ня лёгкім для супрацоўніцтва. З гэтае прычыны меў ён мала супрацоўнікаў і ў канкрэтнай практычнай дзейнасьці звычайна заставаўся ён адзінокім.

Але як-жа прыгожым і павучальным быў факт, калі аўтарытэтныя беларускія нацыянальныя працаўнікі, між імі й наважаныя праціўнікі ягоныя ў апошнія гады, у сваіх прамовах на ягоных пахаронах, забыўшыся пра ўсё благое й прыкрае, поўнасьцяй зрэгабілітавалі Д-ра Я. Станкевіча ды заманіфэставалі сваю глыбокую пашану й высокае прызнаньне ягоных нацыянальных заслугаў. Гэта сьветчыць пра тое, што нашае грамадзтва выявіла сваю маральную дасьпеласьць і пераканаьне, што заслугі для беларускае нацыянальнае справы Памерлага засланяюць сабой усё тое, што ўважалася адмоўным. Гэта ўсё аб'ектыўна пацьвердзіла, што адыйшоў ад нас няўтомна працавіты нацыянальны дзеяч у шмат якіх галінах нацыянальнага жыцьця, гарачы беларускі патрыёт, чалавек, які ўсё сваё жыцьцё, усё свае сілы й энэргію паставіў на верную службу для Бацькаўшчыны.

**Станіслаў Станкевіч**

---

СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ

## УЛАДЗІМЕР ЮНЕЦ

**зь Лідчыны памёр 5 ліпеня сёлета на 71-ым годзе жыцьця ў шпіталі сьв. Лукі ў Брадфардзе й пахаваны на магільніку Нортг Барлэй у Брадфардзе, а абрад паховінаў выканаў пратаярэй а. Янка Абабурка, пра што з сумам паведамляе**

**Рада БАПЦ у Ангельшчыне.**

**Хай лёгкай Яму будзе ангельская зямелька!**

---

СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ

## ЯНКА РАСІМОВІЧ

**із Шчорсаў, Наваградчына, раптоўна памёр 6 ліпеня сёлета на 56-ым годзе жыцьця ў Брадфардзе й пахаваны на магільніку Нортг Барлэй ў Брадфардзе, пакінуўшы ўдавой жонку й трое дарослых дзяцей, а абрад паховінаў выканаў польскі каталіцкі сьвятар, пра што з сумам і спачуваньнем для Жонкі паведамляюць Сябры.**

**Хай лёгкай будзе Яму ангельская зямелька!**

---

# ПАНІХІДА Й ПАМІНКІ ПА АЛЕСЮ ГРЫЦУКУ

У нядзелю 18 ліпеня сёлета ў беларускай БАПЦ царкве сьв. Кірылы Тураўскага ў Тароньце адбылася паніхіда па сьв. пам. Аляксею Грыцуку, што памёр сёлета 30-га травеня ў Кінгстане (Канада). Служылі Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Мікалай і а. Максім. Апрача тарантаўскіх вернікаў, былі й нашыя суродзічы з Ашавы, Садбуры й антарыйскага Лёндану. Уладыка Мікалай гаварыў пра А. Грыцука й ягоны вялікі ўклад у царкоўнае жыцьцё Беларусаў Канады.

Пасьля царкоўных службаў вялікая грамада села за падрыхтаваныя сталы ў прыцаркоўнай залі, дзе спажываўся памінкавы абед. Шырэй пра Алеся Грыцука гаварыў Мікола Ганько, пасьля чаго Уладыка даў слова прысутнаму ўкраінскаму паэту Барысу Аляксандраву, які сябраваў зь нябожчыкам. Госьць згадаў супольную працу, што праводзілі ў Аўстрыі, аддаў пашану Беларусі — „сінявокай сястры Украіны", гаварыў пра многія вартасьці й працу Алеся Грыцука ды выказаў спачуваньні прысутнай Олі й Юльяне Грыцук. Заступнік старшыні Рады БНР д-р Б. Рагуля згадаў Алеся Грыцука, як чалавека вельмі ахвярнага, заўсёднага аптымістага, надта працавітага.

Яшчэ гаварылі зь цікавымі згадкамі й ацэнаю грамадзка-рэлігійных заслугаў нябожчыка наступныя асобы: К. Акула, якому давялося працаваць зь нябожчыкам ад 1948 году, Ул. Цялеш, што згадаў Алеся Грыцука, як высокарэлігійнага чалавека, Б. Лішчонак, што прыгадаў заслугі нябожчыка для беларускай грамады Ашавы, ды сп. Буцьку ад Аддзелу ЗБК ў Садбуры.

Сп-ня Оля Грыцук падзякавала ўсім прысутным за ўдзел і помач ёй у цяжкія часы страты дарагога мужа. Яшчэ раней былі прачытаныя лісты ад сьвятара парахвіі царквы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й ад сям'і д-ра Я. Скурата з выказваньнямі спачуваньня й шкадаваньня, што ня могуць быць разам для ўшанаваньня памяці нябожчыка.

Апошнім гаварыў Уладыка Мікалай, які й закончыў памінкі. Нашым руплівым жанчынам, а найбольш сп-ні М. Ганько за падрыхтаваньне прыгожага абеду належыцца вялікае дзякуй!

**К.**

---

# ПРА БЕЛАРУСЬ У БЕЛЫМ ДОМЕ

Беларуская тэматыка ў Белым Доме была ізноў узьнятая 13 чырвеня, калі інж. Васіль Мельяновіч, сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ды віцэ-старшыня Агульна-Амэрыканскае Асацыяцыі Нацыянальных Групаў, быў удзельнікам канфэрэнцыі на тэму арганізацыйнае дзейнасьці шматнацыянальных арганізацыяў. Сп. Мельяновіч, у ходзе канфэрэнцыі, закрануў таксама праблему беларускіх перадачаў у радыё „Голас Амэрыкі". Дарэчы, патрэба ўводу беларускае мовы ў праграмы „Голасу Амэрыкі" была выказаная і ў васобным пункце рэзалюцыі, прынятай на гадавой канфэрэнцыі Агульна-Амэрыканскай Асацыяцыі Нацыянальных Групаў у травені сёлета.

---

# АГУЛЬНЫ СХОД АДДЗЕЛУ ЗБВВ У БРАДФАРДЗЕ

11 ліпеня сёлета ў Беларускім Грамадзкім Доме ў Брадфардзе адбыўся гадавы справаздачна-перавыбарны сход сяброў Брадфардзкага Аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі.

Сход адчыніў і прывітаў прысутных дасюлешні старшыня ўправы Аддзелу ЗБВВ Янка Калбаса ды папрасіў адмыслова прыбылага зь Лёндану старшыню Галоўнае Управы ЗБВВ Янку Міхалюка ўзяць слова. Сп. Я. Міхалюк шчыра падзякаваў дасюлешняму старшыні ўправы Аддзелу ЗБВВ Янку Калбасу, а таксама й сябром управы за праробленую імі працу ды выказаў спачуваньне й жаль, што сп. Янка Калбаса з прычыны хваробы сваёй жонкі працаваць у грамадзкай галіне далей ня зможа.

У новую ўправу Аддзелу ЗБВВ у Брадфардзе былі выбраныя: сп. Хведар Лемяшонак — старшыня, сп. Уладзімер Амельяновіч — сакратар, сп. Аляксандар Сосна — сябра ўправы.

Зачыняючы сход, сп. Я. Калбаса падзякаваў прысутным за цяжкую працу, а нававыбранай управе пажадаў памысьнасьці й плённае працы на будучыню.

**Янка Крушына**

**Ад Рэдакцыі:** Вітаючы нававыбраную ўправу Аддзелу ЗБВВ у Брадфардзе ды жадаючы ёй плённае працы, добрых дасягненьняў ды добрага супрацоўніцтва з газэтай „Беларус", Рэдакцыя на просьбу былога старшыні ўправы Аддзелу ЗБВВ у Брадфардзе Янкі Калбасы падае да ведама, што з усімі грамадзка-палітычнымі справамі Аддзелу трэба зварочвацца на адрыс ягонага старшыні:

Mr. Teodor Lemieszonak
12 Walmer Villas, Manningham
Bradford, W. Yorkshire, England.

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У МЭЛЬБУРНЕ

Ад 18 да 25 ліпеня сёлета праходзіў у Мэльбурне традыцыйны Тыдзень Паняволеных Народаў. Распачаўся ён у нядзелю 18 ліпеня канцэртам этнічных групаў, якія ўваходзяць у Раду Паняволеных Народаў штату Вікторыя. Канцэрт адбыўся ў вялікай муніцыпальнай залі, якая была перапоўненая — прыбылі ня толькі б. эмігранты, але й шмат патомных Аўстралійцаў.

Адбываліся на працягу тыдня й іншыя імпрэзы, на якіх, як заўсёды, было шмат прысутных. Заканчэньнем Тыдня Паняволеных Народаў была вялікая супольная рэлігійная маніфэстацыя пад лёзунгам „Царква ў перасьледваньні". Маніфэстацыя адбылася 25 ліпеня ў каталіцкай катэдры сьв. Патрыка ў Мэльбурне. З прывітальным словам выступіў протапрасьвітар катэдры а. Ф. М. Чамбэрлен ад імя мэльбурнскага архіяпіскапа Р. Т. Літля, пасьля чаго сфармавалася на катэдральным пляцы працэсія.

Кажная этнічная група з нацыянальным і рэлігійным сьцягам ды ў нацыянальных вопратках. На чале працэсіі чатыры асобы несьлі вялікі дзераўляны крыж, які быў зложаны на ступенях аўтара, пасьля чаго прадстаўнікі кажнай этнічнай групы (сьвятары й сьвецкія) сказалі кароткую малітву за ўсіх тых, што церпяць перасьледваньне пад бязбожнай камуністычнай дыктатурай. У канцы маніфэстацыі славацкі сьвятар Т. Стрніско прачытаў малітву Папы Пія XII на інтэнцыю перасьледванай царквы.

У маніфэстацыі прынялі ўдзел сьвятары ўсіх большых аўстралійскіх веравызнаньняў: лютаране, праваслаўныя, каталікі й англіканцы. Гэта была запраўды экумэнічная падзея. Прыгожа сьпявалі ўкраінскі й лятувіскі хоры.

Удзел у маніфэстацыі прыняла даволі значная беларуская этнічная група із сьцягам. Малітву за Беларусь прачытаў мясцовы беларускі сьвятар БАПЦ а. А. Кулакоўскі.

**А. К-а**

## БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЯПЕРАДАЧЫ Ў СЫДНЭІ

Беларускае Згуртаваньне ў Новай Паўдзённай Валіі (Аўстралія) пасьля даўжэйшых стараньняў дастала паўгадзінныя тыднёвыя перадачы на беларускай мове ў сетцы аўстралійскага дзяржаўнага радыя. Створаны адмысловы Беларускі Радыёвы Камітэт, заданьнем якога ёсьць апрацоўваньне праграмаў і выкананьне перадачаў. Камітэт паставіў сабе за мэту ахапіць ды зацікавіць перадачамі ўсіх Беларусаў Сыднэю, не зважаючы на іхныя палітычныя ці рэлігійныя ўгрупаваньні, ды зьвярнуць асаблівую ўвагу на нашых дзяцей і моладзь. Дзеля таго, што гэтыя перадачы маюць для нас таксама вялікую рэпрэзэнтацыйную каштоўнасьць, Камітэт спадзяецца на шырокую матарыяльную й маральную падтрымку ўсіх Беларусаў Сыднэю.

У газэце „Беларус" за травень сёлета было шмат сказана пра абставіны й зьмену паглядаў у Аўстраліі, што дало магчымасьць этнічным групам атрымаць свае нацыянальныя радыяперадачы. Затрымаюся тут коратка на канкрэтнай арганізацыі нашых радыяперадачаў у Сыднэі. Перадачы гэтыя мусяць быць апалітычныя й насіць інфармацыйна - культурна - разрыўкавы характар. Бяручы гэта за аснову, падбор матарыялу пакідаецца поўнасьцяй да кампэтэнцыі Радыёвага Камітэту, а за зьмест перадачаў адказны г. зв. каардынатар, у нашым выпадку сп. А. Качан.

Нашыя радыяперадачы у васноўным складаюцца зь некалькіх пунктаў, якія аднак могуць мяняцца й дапаўняцца ў залежнасьці ад наяўнага матарыялу. На сяньняшні дзень асноўнымі пунктамі перадачаў зьяўляюцца: 1. навіны зь беларускага жыцьця ў сьвеце; 2. мясцовыя беларускія весткі, сямейная хроніка, водгукі слухачоў на нашыя перадачы; 3. важнейшыя паведамленьні мясцовых уладаў; 4. дзіцячы куток. Уся праграма пераплятаецца адпаведнымі песьнямі й музыкай.

Першая перадача адбылася 20 ліпеня сёлета. Да канца ліпеня ўжо былі апрацаваныя тры перадачы й дзьве запраектаваныя. Дзеля прыкладу, вось тэмы аднае з гэтых перадачаў: 1. уводзіны; 2. 100-ыя ўгодкі ад сьмерці Цёткі; 3. жніўныя абрады на Бацькаўшчыне; 4. прысьвечана Уладзімеру Дубоўку; 5. прысьвечана беларускім дзецям у сувязі з канікуламі.

Пасьля першае перадачы Радыёвы Камітэт атрымаў вельмі прыхільныя водгукі ад слухачоў. Не аднаму — пісалі некаторыя, — пакаціліся сьлёзы, калі пачулі ведамую патрыятычную песьню на словы Канстанцыі Буйлы „Люблю наш край" ды верш Янкі Купалы „На чужыне".

Радыёвы Камітэт не пашкадуе свае працы й спадзяецца, што нашыя суродзічы падтрымаюць гэты важны для нас усіх пачын, ад чаго ў вялікай меры будзе залежыць ягоны далейшы посьпех.

**А. К.**

## ПРА БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЯПЕРАДАЧЫ У СЫДНЭІ

Дайшлі да нас весткі, што Беларусы Сыднэю атрымалі дазвол на беларускія радыяперадачы ў аўстралійскім радыі. Перадачы адбываюцца раз на тыдзень цераз радыястанцыю 2Е.А.

Беларуская Сэкцыя Аўстралійскага радыя 3Е.А. ў Мэльбурне віншуе нашых сыднэйскіх суродзічаў з гэтым важным дасягненьнем і дэкляруе поўнае супрацоўніцтва.

Як можна меркаваць з прысланых нам скрыптаў, беларускія сыднэйскія перадачы стаяць на высокім нацыянальным і мастацкім узроўні. У склад сыднэйскага Беларускага Радыёвага Камітэту ўваходзяць: сп-ня А. Каранеўская, сп. М. Лужынскі й сп. А. Качан. Вялікую дапамогу даюць сп-ня П. Мілеўская й сп-ня Вольга Качан.

Апошнім часам распачаліся ў аўстралійскай прэсе й аўстралійскім радыі выступленьні супраць этнічных перадачаў. Зусім магчыма, што наступяць абмежаваньні або будзе ўведзеная даволі высокая аплата за кажную перадачу, але этнічныя радыяперадачы, хоць і ў крыху зьмененай форме, застануцца. Вельмі важна, каб беларускія перадачы ў Сыднэі й Мэльбурне ўтрымаць ды прадаўжаць іх далей на высокім узроўні.

**А. К-а**

## „СУАЙЧЫНЬНІКІ" НЕ ПАДТРЫМАЛІ

У канцы травеня сёлета да старшыні Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу ў Сыднэі зьвярнуліся савецкія людзі й запрапанавалі, каб ім дазволілі высьвятліць у Клюбе фільм аб Беларусі. Старшыня Клюбу сп. М. Антух, у паразуменьні із сябрамі ўправы, згадзіўся на пробны перагляд фільму, пасьля чаго будзе пастаноўлена: будзе гэта карысным для шырэйшае беларускае публікі, ці не. На гэты перагляд фільму прыбыло 13 чалавек, а ад кіраўніцтва савецкіх фільмовых гастроляў — трох Расейцаў. Быў паказаны гукавы інфармацыйны фільм пра Беларусь. Загучэла музыка, даволі далёкая ад нашых народных мэлёдыяў, і пачуліся словы гутарак. Усе слухаюць... гутаркі на расейскай мове. „Чаму парасейску, чаму не пабеларуску? Ужо выкінулі й нашую мову..." — перашэптваліся прысутныя.

Наратар фільму зычным голасам расказаў аб назове нашай бацькаўшчыны й між іншым зазначыў, што Белая Русь значыла ў мінуўшчыне — незалежная Русь, што Беларусаў усе перасьледвалі, адно толькі маскоўцы й цяпер бальшавікі памагалі ім. Паказалі прыгожыя нашыя краявіды, рэкі, лясы, зубраў, трактарную ворку на полі, машыну для расьсьціланьня лёну, ну — і трактарны ды нафтавы заводы. Паказалі пару пабудаваных дамоў і колькі работнікаў. Фільм закончыўся песьняй „Белая Русь ты мая", што зрабіла вельмі дрэннае даймо на прысутных.

Наступным быў высьветлены расейска-бальшавіцкі фільм з усімі сталінскімі атрыбутамі, толькі бязь песьняў пра Сталіна. Нямы Вярхоўны Савет, як пляскаў у далоні Сталіну, тады Хрушчову, гэтак цяпер рабіў авацыі Брэжневу, які з надутай мінай загадваў начэпліваць сабе мэдалі.

Фільмы скончыліся. Пачалося іхнае абмеркаваньне. Спадар Х. заяўляе: „Пэўне-ж, гэта бальшавіцкая прапаганда, і то парасейску. Мы яе ня можам прыняць". Сп-ня К.: „Бальшавікі паказалі толькі нашых работнікаў, а дзе-ж іншыя, дзе наша інтэлігенцыя, тэатральныя майстры, вучоныя? Дзе нашая нацыянальная мінуўшчына? Нічагусенькі... Адкінуць!"

Хтосьці адклікнуўся, што гэта была рэкляма быццам кока-колі. Найлепш сказаў сп. Д.: „Дык што-ж гэта? Мы ўцякалі ад калгасаў, ад бальшавіцкай прапаганды й паняволеньня, сьвяткуем тут угодкі нашае незалежнасьці, молімся ў сваіх цэрквах ды маем выслухоўваць бальшавіцкую прапагандавую барабаншчыну, і гэта парасейску! Трэба адкінуць!" Галасы на залі: „Пэўна, што трэба адкінуць... Адкінуць!" Было яшчэ чатырох прамоўцаў і ўсе яны былі супраць высьвятляньня савецкіх русыфікацыйных фільмаў.

Пасьля гэтага старшыня Клюбу падзякаваў Расейцам за фатыгу, і на гэтым перагляд быў закончаны.

У народнай казцы добра сказана, што калі воўк падыйшоў да хлява з казьлянятамі, то ён зьмяніў сваю скуру на казьліную й прамовіў цененькім галаском: „Адчыніце, казьлянятклі, тут я, ваша мама." Калі-ж толькі паказаў сваю ножку, то казьляняты лёгка пазналі ваўка. А бальшавікі навет голасу не зьмянілі!?

**Я. Малецкі**

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ ПАД ЛЁЗУНГАМ: BICENTENNIAL SALUTE TO THE CAPTIVE NATIONS

Сёлетняе адзначаньне Тыдня Паняволеных Народаў ў Нью Ёрку, якое было спалучанае з адзначаньнем 200-годзьдзя Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, было асабліва ўрачыстым і шматлюдным.

У нядзелю, 11-га ліпеня а 10-ай гадзіне раніцы ў катэдры Сьв. Патрыка адбылася Божая Служба з нагоды Тыдня Паняволеных Народаў. Перад пачаткам урачыстасьці прадстаўнікі паасобных паняволеных народаў із сваімі нацыянальнымі сьцягамі прамашыравалі да месца, дзе ўрачыстасьць адбывалася. Беларускі бел-чырвона-белы сьцяг нёс сп. Антон Шукелайць — старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА ў асысьце маладых Беларусак у нацыянальных касьцюмах. У маніфэстацыі прынялі ўдзел шмат амэрыканскіх арганізацыяў моладзі, сябры юніяў і шмат турыстых.

Галоўная частка ўрачыстасьці, у якой прыняло ўдзел некалькі тысячаў асобаў, адбывалася каля Статуі Свабоды. Яна пачалася а 1-ай гадзіне дня амэрыканскім нацыянальным гімнам, выкананым ведамай беларускай сьпявачкай сп-няй Лізай Маркоўскай. Прамоўцамі на дэманстрацыі былі: Бурмістр гораду Нью Ёрку Абрагам Бім, Сэнатар Нью Ёрку Джэймс Баклі, Кангрэсмэн Эдвард Коч, Кангрэсмэн Марыё Біяджы, Бурмістр гораду Чыкага Рычард Дэйлі, Прадстаўнік Нацыянальнага Кітаю (Фармоза) Д-р Ку Чэнг Канг, Прэзыдэнт Міжнароднай Юніі працаўнікоў жаноцкай вопраткі (IGWLU), Соль Чайкін і прадстаўнікі паняволеных народаў. Старшыня Агульна-амэрыканскага Камітэту Паняволеных Народаў (National Captive Nations Committee) праф. Леў Дабранскі прачытаў праклямацыю Прэзыдэнта Форда й выступіў з прынагоднай прамовай. Праклямацыю Губэрнатара штату Нью Ёрк Гю Кэры прачытала ягоная заступніца Мэры Эн Крупсак, а праклямацыю ад гораду Нью Ёрку прачытаў сам Бурмістр Абрагам Бім.

У часе ўрачыстасьці былі адзначаныя ўзнагародамі (Freedom Award) за актыўнае падтрыманьне паняволеных камунізмам народаў і іхных нацыянальна-вызвольных імкненьняў Старшыня ўсіх прафсаюзных юніяў (AFL-CIO) Джордж Міні й Бурмістр гораду Чыкага Рычард Дэйлі. Прамовы былі перапляганыя мастацкімі выступленьнямі паняволеных народаў, а таксама музыкай аркестры із Стэйтэн Айлэнд (прадмесьце Нью Ёрку), якая йграла амэрыканскія патрыятычныя мэлёдыі. З народнымі танцамі й сьпевамі выступалі наступныя нацыянальныя групы: Харваты, Немцы, Украінцы, Лятувісы, Чаркесы, Кітайцы, Туркестанцы й Беларусы. Беларусаў рэпрэзэнтавалі на гэтым канцэрце Беларуская Танцавальная Група „Мяцеліца" зь Нью Ёрку, якая выканала народны танец „Вяночак", і сп-ні Каця Яцэвіч і Каця Дашкевіч, якія выканалі пад акампаніямант акардыёну Язэпа Жыдовіча дзьве беларускія народныя песьні.



Зьлева направа: Вера Запруднік, Ніна Абрамчык, Антон Шукелайць, Ніна Запруднік і Ліза Бэй



Каця Яцэвіч і Каця Дашкевіч, з акардыёнам Язэп Жыдовіч

Гэтым разам ладзілі дэманстрацыю шматлікія арганізацыі, згуртаваныя ў вадмысловым Камітэце, які называўся American Bicentennial Committee For the Independence of the Captive Nations. У гэты Камітэт уваходзіла каля 50 амэрыканскіх арганізацыяў. Ініцыятарамі гэтае ўрачыстасьці быў прафэсар Леў Дабранскі, Старшыня Ўсеамэрыканскага Камітэту Паняволеных Народаў і Джордж Міні, старшыня (AFL-CIO).

Трэба сказаць, што посьпех сёлетняга сьвяткаваньня Тыдня Паняволеных Народаў у Нью Ёрку быў вялікі. На тэлевізыйных праграмах былі паказваныя прабег дэманстрацыі, галоўныя прамоўцы й выступленьні мастацкай самадзейнасьці. А нам Беларусам было прыемна, што не зважаючы на гарачы вакацыйны час, мы годна рэпрэзэнтавалі сваю нацыянальнасьць ды выказалі нашую наважанасьць не паслабляць нашых імкненьняў да вольнасьці нашае Бацькаўшчыны Беларусі.

**Рая Станкевіч**

## З ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

**На ўрачыстасьці, прысьвечанай 185-ым угодкам польскай канстытуцыі 3-га Мая,** што адбылася 8 травеня ў будынку гарадзкое ўправы Лёс Анджэлесу, прадстаўніком ад Беларусаў быў сп. Ч. Найдзюк. З галоўнай прамовай выступіў др. Альгерд Клейнот, старшыня арганізацыі „Амэрыканцы за Свабоду Паняволеных Народаў".

**На міжнацыянальным рэспубліканскім сходзе** ў Лёс Анджэлесе, праведзеным 19 травеня ў Эстонскім Доме, сп. Ч. Найдзюк быў прадстаўніком ад беларускае групы.

**У Ўкраінскім Культурным Цэнтры ў Лёс Анджэлесе** 5-6 чырвеня адбыўся ўкраінскі юбілейны фэстываль з нагоды 200-годзьдзя ЗША і 100-годзьдзя пасяленьня Ўкраінцаў у Амэрыцы. На ўрачыстым адчыненьні фэстывалю ганаровым прадстаўніком ад Беларусаў быў сп. Ч. Найдзюк, які, вітаючы фэстываль, падаў таксама пра беларускі фэстываль у Нью Джэрзі 12. VI. Украінскі фэстываль падтрымала цімала Беларусаў, прыхільнікаў братэрскага супрацоўніцтва з украінскімі патрыётамі-незалежнікамі.

**Беларуская госьця зь Нью Ёрку.** Беларусам Лёс Анджэлесу й ваколіцаў было прыемна спаткацца й бліжэй пазнаёміцца з паважанай сп-няй Вольгай Тулейка, жонкай ведамага беларускага дырыгента хору ў Нью Ёрку. Сп-ня Тулейка была захопленая ўкраінскім юбілейным фэстывалем і наведала шмат Беларусаў у іхных прыванах дамох.

---

**Саюз пісьменьнікаў Беларусі** за мінулыя пяць гадоў пабольшыўся на 36 новых сяброў, зь іх: 22 празаікі, 6 паэтаў, 6 крытыкаў, 1 драматург і 1 перакладчык. („Маладосьць", 1976, №5, б. 167).

**„Беларусь індустрыялізавалася за адно пакаленьне"**— пад гэткім загалоўкам амэрыканская газэта „Сан", што выходзіць у гор. Балтыморы, (16. VII. 76), зьмясьціла вялікі артыкул свайго карэспандэнта Гала Пайпэра зь Менску. Пасьля гутаркі з Максімавам, прадстаўніком міністэрства замежных справаў БССР, Гал Пайпэр падае, што яму сказаў Максімаў: пра тое, як Беларусь з адсталага краю зрабіла прагрэс у эканоміцы.

---

## ПАПРАЎКА

У папярэднім нумары „Беларуса", у справаздачы зь Беларускага Фэстывалю, былі памылкова прапушчаныя прозьвішчы ўдзельнікаў хору кампазытара Д. Верасава, што выступалі ў складзе хору ў праграме Фэстывалю. Падаём тут гэтыя прозьвішчы ды выбачаемся за недагляд: Р. Касьцюк, Л. Бахар, А. Евец, А. Занкавіч, С. Касьцюк і А. Дарафэйчук.

**Рэдакцыя**

